# За правы чалавека

Віцебскі рэгіянальны праваабарончы бюлетэнь

№ 12 (71) Сьнежань 2012 г.


## У ВІЦЕБСКУ ЗЬБІЛІ АКТЫВІСТА БНФ

**Зь віцебскім сябрам партыі БНФ Аляксеем Гудзіліным невядомыя правялі «прафіляктычную гутарку». Ад яго запатрабавалі спыніць сваю дзейнасьць і больш не «піярыць» БНФ. Каб малады чалавек лепш зразумеў сказанае, яго зьбілі.**



Аляксей Гудзілін

Інцыдэнт здарыўся 14 сьнежня. Аляксей Гудзілін вяртаўся з практыкі, ён вучыцца на зваршчыка. Па дарозе вырашыў завітаць да свайго сябра, каб разам пайсьці ў спартовую залю. Аднак, выйшаўшы з трамвая, ён змог прайсьці толькі некалькі мэтраў, пасьля чаго быў спынены людзьмі ў цывільным.

*«На вуліцы Сьмятаніна да мяне падышлі двое чалавек. На выгляд ім было гадоў па 40-45. Сказалі, што я павінен зь імі прайсьці. Я спытаў: "Зь якой прычыны? Я ж не судзімы, у мяне штрафаў нават няма. Навошта мне кудысьці праходзіць?" Хвіліны праз дзьве пад'ехала машына. Мяне туды пагрузілі. Гвалтоўна-прымусова...»* — распавядае партыйны актывіст.

Аляксея заштурхнулі на задняе сядзеньне аўтамабіля, самі селі па абодва бакі ад яго: *«Яны мне сказалі: Навошта ты займаесься такой дзейнасьцю, піярыш партыю БНФ?».*

Потым адзін з мужчын нанёс Аляксею кулаком удар у твар: *«Зьбілі мяне. У выніку зламаны нос, закрыты пералом. Мне сказалі, што я не павінен больш хадзіць у БНФ, наогул піярыць яго і займацца абы-чым. "Абы-чым" — гэта адстойваць спартовую залю? Гэта проста абсурд!»*

Спартовая заля, якую згадвае Алексей Гудзілін, знаходзіцца ў раёне ДСК. Гэта адзіная трэнажорная заля на ўвесь раён, у ёй рэгулярна займаюцца спортам некалькі дзясяткаў чалавек, як дарослых, гэтак і дзяцей. На пачатку кастрычніка камунальнікі зачынілі былі залю нібыта з прычыны яе нерэнтабэльнасьці і скарацілі пасаду трэнэра (майстар спорту Аляксандар Таболін прапрацаваў тут 17 гадоў, зь ім вырашылі не працягваць кантракт).

Памяшканьне спартзалі ЖРЭТ зьбіраўся пераабсталяваць у краму ці склад. Тады Аляксей, які сам займаецца там спортам цягам дзесяці гадоў, пачаў змаганьне. Ён здолеў прыцягнуць да сытуацыі ўвагу грамадзкасьці. Пра гісторыю з закрыцьцём залі напісалі «Народныя навіны Віцебска» і «Камсамольская праўда», быў паказаны сюжэт на тэлевізійным канале СТВ. У выніку ЖРЭТ мусіў адступіцца — спартовую залю зноў адчынілі, з трэнэрам працягнулі кантракт, праўда пакуль толькі на паўгода.

*«Засмуціла тое, што калі я змагаўся за гэтую залю, ніводзін са 120 чалавек не пагадзіўся са мною гэта рабіць, бо я адразу сказаў, што я ад партыі БНФ. Мне сказалі: "Гэта ж апазыцыйная партыя, нас жа пасадзяць у турму". Трэнэр таксама вельмі баяўся. Ва ўсіх СМІ, якія паведамлялі пра гэта, выразалі тыя моманты, дзе я згадваў партыю БНФ»*, — распавёў Аляксей.

Хлопец кажа, што ён узьняў рэйтынг БНФ у вачох сваіх сяброў: *«Цяпер партыю БНФ ведаюць на трэніроўках, ведаюць, што вось такі чалавек ходзіць сюды, трэніруецца, і ён адстаяў спартзалю сваімі сіламі».* Відаць, менавіта рост папулярнасьці апазыцыйнае партыі сярод наведвальнікаў трэнажорнай залі, да якога спрычыніўся Аляксей, і стаў прычынай яго зьбіцьця.

**Асобы, што збівалі маладзёна, імаверна, зьяўляюцца супрацоўнікамі праваахоўных органаў. Бо, як кажа Аляксей, яны паказалі яму нейкія пасьведчаньні, але зроблена гэта было так хутка, што ён не пасьпеў разгледзець, што ў тых пасьведчаньнях было напісана.**

# Чарнобыльскія ліквідатары: Радзіма нас забыла!

**Трое ліквідатараў аварыі на Чарнобыльскай АЭС – жыхароў Віцебску атрымалі ўкраінскія ўзнагароды, выпушчаныя да 25-х угодкаў трагедыі. Памятным крыжам «25 гадоў Чарнобыльскай катастрофы» быў ганараваны Анатоль Гнеўка, старшыня Віцебскай абласной арганізацыі пацярпелых ад аварыі на Чарнобыльскай АЭС. Знакі ўзнагароды «25 гадоў гераічнага подзьвігу» атрымалі Аляксандар Мікулін і Сяргей Іконьнікаў.**

*Уручэньне ўзнагародаў стала нагодай пагутарыць з тымі, хто змагаўся з наступствамі самай жахлівай тэхнагеннай катастрофы ў гісторыі чалавецтва.*

***Распавядае палкоўнік у адстаўцы Анатоль Гнеўка, былы кіраўнік штабу па ліквідацыі наступстваў аварыі ў Чарнобыльскай зоне:***

— Мы былі ў Кіеве на 25-годзьдзе Чарнобыльскай аварыі. Прадстаўнікоў нас было чалавек сем. Гэта было летась, 26 красавіка 2011 году.

На 25-я ўгодкі мы ўзнагароджаныя былі ўкраінскім ордэнам — «Чарнобыльскім крыжам». Усяго было ўзнагароджана пяць чалавек зь Віцебску. Пра гэта было ў газэце апублікавана, я з гэтай нагоды нават апранаў форму сваю вайсковую, каб узьняць дух нашых чарнобыльцаў.

Дык вось, я хачу сказаць, што чарнобыльскія ўзнагароды зробленыя ў шмат якіх дзяржавах, цяпер самастойных, незалежных. На сустрэчы ў Кіеве былі прадстаўнікі зь Летувы са сваімі нацыянальнымі ўзнагародамі. З Арменіі былі. З Кіргізіі...

Астатнія ўсе краіны таксама свае ўзнагароды маюць. У нас на сустрэчы быў латыш адзін. Дык у іх ёсьць мэдаль такі вялікі, і яго варыянт, так сказаць, у маленькім, зьменшаным выглядзе. Вось ён прыехаў з такімі ўзнагародамі... У нас такога няма, а ў іх ёсьць. Як гэта? Цяжка зразумець.

Я зьбіраю калекцыю... Чарнобыльскія значкі. Дык вось тыдзень таму мне падаравалі значак, які да 20-годзьдзя выпусьціла Нямеччына — яны хвалююцца. Толькі мы не хвалюемся, у нас ніякіх праблемаў «не існуе».

Мы — адзіная дзяржава, дзе праблемаў чарнобыльскіх «няма». І таму мэдалі нейкія, знакі памятныя ў нас не выпускаюцца. Я ня ведаю ніводнага значка, выпушчанага ў Беларусі, прысьвечанага чарнобыльскай тэматыцы. Вось у мяне там ёсьць — «Беларуская ваенная акруга», але гэта яшчэ за часамі СССР яны выпускаліся.

Дзякуй украінцам, дзякуй расейцам, што яны ўсё-такі нас не забываюць, памятаюць пра нас. А Радзіма нас забыла! Мы ім не патрэбны. Навошта ім лішняя дакука?

Навошта? У нас праблем няма Чарнобыля. Нам сказалі ўсім у выступах, што праблемы чарнобыльскія ўсе вырашаныя. Ніякіх няма праблем. Людзі могуць ехаць, засяляцца, жыць, харчавацца — там, маўляў, чыстая прадукцыя, чысьцейшая нават, чым у іншых абласьцях, незабруджаных. Такая вось сытуацыя....

Крыўдна, вядома, што мы сваё здароўе паклалі на алтар Айчыны, і Радзіма нас забыла! Забыла...



Аляксандар Мікулін, Сяргей Іконьнікаў, Анатоль Гнеўка

***Узьнятую тэму працягвае Сяргей Іконьнікаў. Калі здарылася аварыя, ён як афіцэр-хімік у званьні старшага лейтэнанта быў прызваны з запасу і прызначаны камандзірам узводу радыяцыйнай хімічнай выведкі ў беларускім палку грамадзянскай абароны. У той час полк знаходзіўся ў 30-кілямэтровай зоне:***

— Сапраўды, Украіна нас памятае, Расея памятае. Вось у мяне ўзнагароды ёсьць расейскія — запоўнена ўсё, пячатка расейская на пасьведчаньнях. На ўкраінскіх — украінская пячатка.

А зь беларускага боку адзінае, што ў мяне ёсьць, — гэта ад міністра па надзвычайных сытуацыях Рэспублікі Беларусь грамата. І гэта ўсё. Дый гэта атрымаў яшчэ на пачатку 1990-х гадоў.

Яшчэ калі было 20 гадоў Чарнобылю, дык гэтая дата тады адзначалася ў нас, у Палацы Рэспублікі ў Менску. Туды зьехаліся з Казахстана, з Кіргізіі, з Чачні... — адусюль былі. А цяпер на Чарнобыль забыліся.

Таму сучасных узнагарод і няма ніякіх. Бо ў нас жа не існуе чарнобыльскай праблемы. Якія могуць быць узнагароды, калі няма праблемы?

***Сваімі думкамі наконт стаўленьня прадстаўнікоў беларускай дзяржавы да чарнобыльскай праблемы падзяліўся Аляксандар Мікулін. У 1996 годзе ён вучыўся ў Акадэміі міліцыі МУС СССР, адкуль і быў накіраваны ў Чарнобыль:***

— Калі прыехалі ўсе дэлегацыі ў Кіеў — не было толькі беларускага лідэра, нашага кіраўніка дзяржавы. Таму што ў гэты час ён чамусьці пакрыўдзіўся на кагосьці і не прыехаў.

Паўстае пытаньне: хіба можна крыўдзіцца, калі кіраўнікі дзяржаў славянскіх прысутнічаюць і вырашаюць агульную праблему? Гэта ж наш агульны боль.

Што да ўзнагарод. Насамрэч ёсьць беларуская ўзнагарода. Але яна нам ня можа дастацца. Чаму? Зь якой прычыны?

Вось мае таварышы распавядалі, што ва ўсіх дзяржавах выпускаецца адна ўзнагарода, і ўсе, хто ўдзельнічаў, ёй узнагароджваюцца. У нас жа ў дзяржаве атрымліваецца так, што ёсьць чарнобыльцы, якім даспадобы ўлада, і ёсьць чарнобыльцы, якія стаяць на іншых пазыцыях, на пазыцыях сусьветных, на агульнапрызнаных людзкіх пазыцыях.

Тыя чарнобыльцы, якія пры ўладзе — яны самі сябе ўзнагароджваюць. Калі было 25-годзьдзе, у парлямэнце беларускай дзяржавы ўзнагароджаньне ішло. Сярод парлямэнтароў, хто быў у Чарнобылі. Іх там было няшмат, але былі. Гэта ў Інтэрнэце ёсьць інфармацыя, яна даступная.

Я вось зараз пагледзеў, па цяперашняй кадэнцыі, хто ўзначальвае камісію чарнобыльскую, хто сябры камісіі. Ніхто зь іх у Чарнобылі ня быў. Але яны вырашаюць праблемы чарнобыльцаў. Нашы праблемы вырашаюць людзі, якія зусім не знаёмыя з гэтымі праблемамі і нічога ня ведаюць.

***Зараз дзяржава ладзіць абмен пасьведчаньняў чарнобыльцаў, паведамілі суразмоўцы.***

***Анатоль Гнеўка:***

— Мы, вядома, не зусім з гэтым абменам згодныя. Бо мы былі ліквідатарамі, а сталіся пацярпелымі ўсяго толькі.

Ідуць заклікі: «Давайце, мяняйце дакумэнты, інакш з 1 студзеня вам нічога плаціць ня будуць, ільготы ўсе будуць скасаваныя — хто не абмяняў». А абмяняла ўсяго недзе каля 60 адсоткаў. То бок 40 адсоткаў — гэта, мабыць, тыя, хто сышлі ў іншы сьвет альбо наогул не жадаюць з гэтым зьвязвацца. Хутчэй за ўсё, адсоткаў 30 сышло ў іншы сьвет.

***Сяргей Іконьнікаў:***

— Улады лічаць, што няма ліквідатараў ужо. У Віцебску, наогул у Беларусі ўжо нават няма такога клясу — людзей, якія былі на ліквідацыі. Вось значак — «Удзельнік ліквідацыі ава-

рыі», яго за савецкім часам усім ліквідатарам давалі. Дык гэты значак ужо можна не адзяваць, гэта проста рэліквія будзе. Ужо няма ліквідатараў...

*Аляксандар Мікулін:*

— Так, цяпер усе мы будзем ужо не ліквідатары, а пацярпелыя. Цяпер ня будзе розьніцы паміж ліквідатарамі і перасяленцамі. Але розьніца ж ёсьць. Бо перасяленцы — гэта людзі, якім няшчасьце звалілася на галаву, іх умомант узялі, перасялілі. Яны кампэнсацыю атрымалі грашовую за тое, што яны страцілі. А мы, ліквідатары, згубілі здароўе, кампэнсацыю мы не атрымалі.

***Пытаньне пра льготы ліквідатары ўспрымаюць з гіроніяй.***

*Анатоль Гнеўка:*

— Ільготы? Я скажу, якія льготы насамрэч. Мае дзеці могуць па-за чаргой быць прынятыя ў дзіцячыя ясьлі, у дзіцячы садок і па-за конкурсам паступіць у навучальныя ўстановы Беларусі.

Засталіся яшчэ льготы такія, як напрыклад адпачынак у зручны для пацярпелага час.

Што тычыцца грашовага складніку, дык дзесьці адсоткаў 5-10, у залежнасьці хто калі быў, да пэнсіі дадаюць.

Такія вось ільготы. То бок у нас праблем быццам бы няма, у нас усё добра ідзе і разьвіваецца. Але я хачу заўважыць, што колькасьць ракавых, анкалягічных захворваньняў у нас павялічваецца і ўзрастае.

І яшчэ. Бываючы ў паліклініцы, — а ў мяне куча ўсялякіх захворваньняў, і я мушу раз на месяц, як мінімум, наведваць эндакрыноляга, у мяне была апэрацыя на шчытападобцы, і тэрапэўта — дык вось, знаходзячыся ў чарзе, я часам карыстаюся такой ільготаю як наведваньне лекара па-за чаргой. І тое, гляджу, каб там не было бабулек, удзельнікаў вайны, якім па 90 ужо гадоў.

***Наконт мэдычнага абслугоўваньня разважае Сяргей Іконьнікаў:***

— У нас тут у Віцебску быў філіял інстытуту радыяцыйнай мэдыцыны. Калі новы будынак гэтага інстытуту адкрывалі, на адкрыцьцё прыяжджаў Лукашэнка. Маўляў, дзяржава мае клопат аб ліквідатарах, аб чарнобыльцах, аб перасяленцах, усё добра...

Мінуў час. Тут прыходжу, а мне кажуць: «Сяргей, усё, вазьмі сваю картку». — «У чым справа?» — «Косінец забірае будынак». — Я кажу: «Як забірае?» — «А вось так, пад клініку мэдунівэрсытэту».

Я тады запісаўся на прыём да прадстаўніка прэзыдэнта па Віцебскай вобласьці. Ну што, прыйшоў да яго, распавёў пра сытуацыю, паперу нават падаў. «Маўляў, — кажу, — так вось, зачыняюць». — «А як на гэта глядзіць губэрнатар?» — Кажу: «У губэрнатара трэба запытацца, але мы ўсе супраць таго, каб зачынілі».

Але што карысьці, хто нас будзе слухаць? Гэта ўжо недзе ў 2005-2006 годзе былі пляны такія, каб чарнобыльскую праблему выняць поўнасьцю з жыцьця Беларусі.

Цяпер застаўся Гомельскі рэспубліканскі навукова-дасьледчы інстытут радыяцыйнай мэдыцыны. Дык туды яшчэ патрап! Туды ня трапіш. Адмысловае накіраваньне трэба туды...

Калі Лукашэнка прыяжджаў, усё казаў, што ў нас вельмі шмат перасяленцаў, што пра наша здароўе клапоцяцца і ўсё такое. Ну вось і клопат...

Цяпер нават каб ультрагукавое дасьледаваньне зрабіць унутраных ворганаў чарнобыльцам — я інвалід Чарнобыля — гэта трэба месяца паўтара-два чаргу чакаць, каб зрабілі гэтае дасьледаваньне. «Усё на дабро чалавека»...

Інстытут зачынілі... У мяне ў паліклініцы ля ўваходу напісана, хто мае права ісьці па-за чаргой. Я пайшоў. Бо патэлефанавалі мне: трэба прайсьці мэдкамісію. Я прыходжу, кажу: «трэба мне мэдкамісію прайсьці, трэба талён туды, туды». — «Няма талёнаў!». Ну няма талёнаў, ня трэба. Я разьвярнуўся, да загадчыка паліклінікі пайшоў... Пакуль ты некуды ня сходзіш — нічога, ніхто нікому не патрэбен. Толькі рукой махнуць засталося...

***На думку Анатоля Гнеўкі, такое стаўленьне дзяржавы да тэмы Чарнобыля наўпрост зьвязанае з будаўніцтвам Астравецкай АЭС:***

— Таму нібыта і няма ў нас ніякай чарнобыльскай праблемы, каб прытупілася пільнасьць народу. Я заўсёды паўтараю, што для таго, каб пабудаваць станцыю, трэба спачатку адпрацаваць варыянты разьвіцьця сытуацыі ў выпадку яе аварыі. Гэтага нічога ня робіцца...

Наколькі ведаю, у Астравецкім раёне ствараюцца часткі ўнутраных войскаў. Але гэта для аховы. А што для ліквідацыі наступстваў? Лічу, што там нічога няма. І калі нешта адбудзецца, узьнікне сытуацыя накшталт Чарнобыля, дык усё, што мы зьведалі, паўторыцца. Таму і выбралі месца ля мяжы, каб умяшаліся іншыя дзяржавы. Гэта палітыка...

***Супраць будаўніцтва АЭС у Астраўцы выказваецца і Сяргей Іконьнікаў:***

— Са мною на першым зьезьдзе саюзу «Чарнобыль» быў прафэсар Лепін Георгій Фёдаравіч, наш віцебскі фізык. Дык вось у яго ў газэце быў артыкул «Атаму не бывае мірным». Атам не бывае мірным — як ты ні круціся, як ні варочай — атам ёсьць атам. Ён непрадказальны.

Атамная станцыя. Расея, правільна, яна згодная: няхай беларусы будуюць атамную станцыю на сваёй тэрыторыі. Усё адно электраэнэргію яны будуць забіраць. Але для нас электраэнэргія таньнейшай ня стане. Пабудуюць атамную станцыю, пабудуюць яшчэ дзьве гідраэлектрастанцыі — у раёне Полацку і ў раёне Бешанковіч. Але мы як плацілі 70 рублёў за кіляват, дык к таму часу, мабыць, будзем плаціць170.

Я ня ведаю, якога кшталту станцыю пабудуюць у Астраўцы, што там будзе. Нам, мабыць, не дажыць да тых часоў. Але я супраць будаўніцтва. Супраць мірнага атаму, які мірным не бывае.

***На думку Аляксандра Мікуліна, перш як будаваць Астравецкую АЭС, трэба атрымаць урокі з Чарнобыля:***

— Нам кажуць, эканамічны прагрэс патрабуе ад дзяржавы таго, што яна павінна быць незалежнай. Таму, кажуць, будуецца атамная электрастанцыя ў Астраўцы. З аднаго боку прагрэс ёсьць прагрэс. Нікуды не падзецца. Добра будзе ці дрэнна ў выніку — гэта даведаемся потым.

Але ёсьць урокі. Якія ўрокі ўзятыя? Уявім, што пабудавалі атамную электрастанцыю, запусьцілі, працуе. Здарылася штосьці. Хто пойдзе гэтае штосьці потым ліквідаваць, бачачы такое нэгатыўнае стаўленьне да нас? Ды ніводзін вайсковец ня пойдзе. Бо жыцьцё — гэта найдаражэйшае, што чалавеку дадзена. А што ён атрымае, калі будзе ліквідатарам? Непавагу, бяздушнасьць — тое, што маем цяпер мы.

***Віцебскія чарнобыльцы лічаць, што нам ёсьць чаму павучыцца ў суседніх краінах, у той жа Расеі:***

*Сяргей Іконьнікаў:*

— Я сам родам з Расеі, з Карэліі. І вось я прыяжджаю ў Карэлію. У Карэліі ёсьць такі горад Пудаж. Дык вось першым сакратаром райкаму партыі там быў Вася Малікаў. І там ён паставіў помнік. Жывым і мёртвым чарнобыльцам. У памяць. Я ня ведаю, колькі там чалавек было з Карэліі ў Чарнобылі, але ведаю, што людзі таксама былі прызваныя адтуль на ліквідацыю наступстваў аварыі. І там пра іх памятаюць.

*Анатоль Гнеўка:*

— Я быў у Ленінградзе. І заехаў да свайго дзядзькі, яму 86 гадоў. Ён кажа: «Хадзем, я табе пакажу чарнобыльскі помнік». У іх у мікрараёне чарнобыльскі помнік. Дзядзька падыходзіць, капялюш зьняў. «Давай, — кажа, — пасядзім тут на лаўцы каля гэтага помніку». Гляджу: людзі спыняюцца ля помніку. Падыходзяць мужыкі, хто пераражагнаецца, хто капялюш зьніме. У нас жа вось гэткіх праблем няма....

***Ліквідатары ўпэўненыя, што падобны помнік павінен быць і ў Віцебску:***

*Анатоль Гнеўка:*

— У свой час я выступаў і прасіў, каб калі няма грошай у дзяржаве і вобласьці паставіць помнік чарнобыльцам, дык давайце пакладзем камень хаця б, і на камні на адным баку надпіс зробім: «Тут будзе помнік чарнобыльцам, пацярпелым ад аварыі, і ліквідатарам». — Дык рэакцыі на маю прапанову ніякай.

*Аляксандар Мікулін:*

— На беразе ракі Віцьбы аздараўленча-спартовы комплекс ёсьць, там выспа маецца. Мы хочам выйсьці з ініцыятывай, каб там, у парку, паставіць знак памяці пра чарнобыльскую трагедыю. І, як напрыклад, выспа сьлёз у Менску ёсьць афганская, тут — выспа сьлёз памяці чарнобыльцаў.

Для чаго гэта патрэбна? Ну, разумееце, гэта памяць, якая патрэбная жывым. Патрэбная для таго, каб выхаваць у людзях ахвярнасьць, каб быў прыклад станоўчы...

# Ізноў у Віцебску апазыцыянэры "нецэнзурна лаяліся"

**Затрыманых у Віцебску актывістаў БХД Станіслава Лаўрэнава і Аляксея Кішчука абвінавацілі ў дробным хуліганстве - "нецэнзурнай лаянцы". Затрыманьне адбылося 19 сьнежня каля 11 раніцы.**

Супрацоўнікі ДАІ спынілі машыну, якой кіраваў Станіслаў Лаўрэнаў, але чамусьці сталі правяраць дакумэнты і ў Аляксея Кішчука. У яго не было пры сабе пашпарту, і хлопца павезьлі ў міліцыю, каб спраўдзіць асобу. Але там адразу склалі пратаколы, нібыта абодва "лаяліся матам", а Станіслаў Лаўрэнаў нібыта не падпарадкоўваўся патрабаваньням супрацоўнікаў міліцыі.

"Нічога такога не было. Мы ехалі набываць падарунак сябру на дзень народзінаў. Машыну спынілі, сталі правяраць дакумэнты Станіслава, потым мае. Потым на ягонай машыне ён паехаў у пастарунак з супрацоўнікамі міліцыі, а мяне павезьлі асобна. У Першамайскім РАУС нас трымалі больш за тры гадзіны, потым павезьлі ў Першамайскі райсуд, каб судзіць за хуліганства. Але суду не было, нас завезьлі ў ізалятар часовага ўтрыманьня, і ніхто ня кажа, на якой падставе нас тут трымаюць", - распавёў Аляксей Кішчук.



Т. Севярынец, С. Лаўрэнаў, А.Кішчук

**Ноч Аляксей Кішчук і Станіслаў Лаўрэнаў правялі ў ізалятары часовага ўтрыманьня, адкуль 20 сьнежня іх зноў прывезьлі ў суд. На гэты раз працэс адбыўся. Судзьдзя Першамайскага райсуду Валянціна Кісьмярошкіна ўзяла пад увагу паказаньні сьведкаў-міліцыянтаў, якія заявілі, што двое віцебскіх прыхільнікаў БХД іх нецэнзурна абражалі. Суд над двума актывістамі праходзіў у габінэце судзьдзі, ім прысудзілі штрафы па 3 базавыя велічыні.**

Гэтая акалічнасьць дае падставы меркаваць, што затрыманьне Лаўрэнава і Кішчука было прэвэнтыўным, лічыць каардынатарка аргкамітэту па стварэньні партыі БХД Тацьцяна Севярынец:

«Іх адсочвалі з самага ранку, Аляксей і Станіслаў распавядалі, што за імі езьдзілі міліцэйскія машыны. Станіслава, які быў кіроўцам, ДАІ яшчэ аштрафавала на 650 тысяч за пратэрмінаваны тэхпашпарт, але гэта ўжо іншая справа... Я думаю, хлопцаў адмыслова трымалі пад вартай амаль суткі, пакуль было 19 сьнежня — каб ня зладзілі нейкай акцыі да ўгодкаў Плошчы. Дарэчы, супрацоўнікі Першамайскага РАУС канфіскавалі з машыны мядзьведзіка з плякатам „Будучы прэзыдэнт" ды так і не аддалі, нават пасьля суду».

# Любоў Кавалёва - праваабаронца году



Любоў Кавалёва

**Традыцыйна 10 сьнежня, у Міжнародны дзень правоў чалавека, вызначылі найлепшых журналістаў, адвакатаў і праваабаронцаў. Праваабаронцам году назвалі Любоў Кавалёву.** Маці Ўладзіслава Кавалёва ўшанавалі ўзнагародаю за «абарону сына, абвінавачанага ў зьдзяйсьненьні тэракту ў менскім мэтро і пасьля расстралянага, і за барацьбу супраць сьмяротнага пакараньня».

**«На гэта пакладзенае жыцьцё майго сына. Цягам усяго часу мяне падтрымлівалі людзі, і, каб ня гэта, мне было б значна цяжэй. Дзякуючы гэтаму падтрыманьню я яшчэ жыву, я яшчэ штосьці магу рабіць. Ці ёсьць у нас яшчэ правы? Па-мойму, у нас ужо даўно іх забралі. У любых справах ідуць толькі адпіскі»**, — зазначае Любоў Кавалёва. Жанчына будзе надалей змагацца за адмену сьмяротнага пакараньня ў Беларусі і за рэабілітацыю імя свайго сына.

Адвакатамі году назвалі Алівіну Дрыго і Аліну Шостак, якія ў судох баранілі актывістаў «Маладога фронту». Журналіст году — Андрэй Пачобут.

Бюлетэнь "За правы чалавека" выдаецца праваабаронцамі Віцебскага рэгіёну.
Наклад 299 асобнікаў.
Пры падрыхтоўцы бюлетэня выкарыстоўваліся матэрыялы сайта http://prava.vitebsk.cc і іншыя Інтэрнэт-рэсурсы.